№ 73 (4120)

20 верасня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Не застаньцеся без «Народнай Волі» ў кастрычніку–снежні!

Нагадваем: многім з Вас, шаноўныя чытачы, трэба прадоўжыць падпіску на IV квартал. Не спазніцеся!

**Вы – з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” – з Вамі!**



# 25 гадоў таму бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» сталі дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь

19 верасня 1991 года гістарычная сімволіка была прызнана дзяржаўнай. Такое рашэнне прыняў пасля краху СССР Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання.

Нацыянальная сімволіка заставалася дзяржаўнай да рэферэндуму 1995 года, калі замест яе вярнулі савецкія сімвалы.

Раней бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» былі сімваламі Беларускай Народнай Рэспублікі – першага дзяржаўнага ўтварэння, што абвясціла сваю незалежнасць ад іншых краін і выкарыстоўвала азначэнне «беларускі».

Герб «Пагоня» – ваяр з узнятым мячом на белым кані ў чырвоным полі – вядомы ў Беларусі з глыбокай старажытнасці.

У якасці дзяржаўнага герба Вялікага Княства Літоўскага, старажытнай беларускай дзяржавы, яе пачаў выкарыстоўваць вялікі князь Віцень напрыканцы XIII стагоддзя. Выявай «Пагоні» ўпрыгожаныя ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі «Літоўскай метрыкі» і «Статутаў».

«Пагоня» была на сцягах беларуска-літоўскага войска ва ўсіх вырашальных бітвах тых часоў – ад Грунвальда да Оршы.

Пасля Люблінскай уніі «Пагоня» нароўні з польскім белым арлом змяшчалася на гербе Рэчы Паспалітай і на каралеўскім сцягу. Нават пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у XVIII ст., калі Беларусь трапіла пад уладу Расіі, «Пагоня» засталася гербам беларускіх губерняў.

Бел-чырвона-белы сцяг у сённяшнім выглядзе, у адрозненне ад «Пагоні», мае канкрэтнага аўтара. Сцяг стварыў у 1917 годзе Клаўдзій Дуж-Душэўскі.

Створаны Дуж-Душэўскім сцяг быў упершыню ўзняты ўвесну 1917 года на будынку Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбургу (Дуж-Душэўскі быў супрацоўнікам гэтага таварыства).

А 12 сакавіка ў Мінску ўпершыню адбылося масавае свята – нацыянальны Дзень беларускага значка. Бел-чырвона-белыя значкі, кукарды і сцяжкі можна было пабачыць паўсюль на вуліцах.

Бел-чырвона-белую стужку ў 1917-м сталі насіць і вайскоўцы-беларусы на франтах Першай сусветнай вайны, каб пазнаваць сваіх.

У снежні 1917 года ў Мінску падчас Усебеларускага з’езда бел-чырвона-белы сцяг ужо адзінадушна прызнаваўся нацыянальным сімвалам Беларусі. Ён стаў дзяржаўным сцягам Беларускай Народнай Рэспублікі.

За Саветамі ж сцяг быў забаронены.

У канцы 1940-х Сталіну спатрэбілася стварыць сцягі саюзных рэспублік СССР, асабліва тых, якія былі членамі ААН. Яны былі выраблены на аснове сцяга савецкай імперы. Гэты сцяг і зацвердзілі ў 1951-м. Герб БССР трохі даўнейшы. Ён быў прыняты ў 1927-м таксама на аснове герба СССР.

“Наша Ніва”.
Фота: Вадзім Заміроўскі, TUT.BY.

**(Працяг тэмы на 4-й стар.)**

РАКІРОЎКА

## Куды працаўладкуюць дэпутатаў?

Быць дэпутатам “не вольная работа, а цяжкая праца”, заявіў учора **Аляксандр Лукашэнка** падчас сустрэчы са старшынёй Палаты прадстаўнікоў **Уладзімірам Андрэйчанкам**. Кіраўнік дзяржавы таксама звярнуў увагу на працаўладкаванне дзеючых дэпутатаў.

*“Можа, будуць нейкія пажаданні па працаўладкаванні дэпутатаў, якія сыходзяць з парламента, але не з палітычнага жыцця,* – прыводзіць словы Лукашэнкі прэс-служба кіраўніка краіны. – *Пагляздіце, каб дэпутаты, якія сыходзяць з парламента, былі запатрабаваны ў жыцці. Ёсць дэпутаты, якіх мы згубіць не можам”.*

Андрэйчанка паведаміў, што ўсяго трэба працаўладкаваць 28 чалавек і на сёння ўжо вырашана пытанне ў дачыненні да 21 дэпутата.

ПАЛІТКУХНЯ

## Рада Беларускага нацыянальнага кангрэса будзе працаваць над далейшым аб’яднаннем дэмакратычных сіл

Як вядома, у склад Рады Беларускага нацыянальнага кангрэса ўваходзяць: ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі («Грамада») – **Станіслаў Шушкевіч**, ад аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі («Народная Грамада») – **Мікалай Статкевіч**, ад незалежнага прафсаюза РЭП – **Генадзь Фядыніч**, ад кампаніі «Еўрапейская Беларусь» – **Максім Вінярскі**, ад зарэгістраванага ў Чэхіі аб’яднання «Малады фронт» – **Зміцер Дашкевіч**, ад руху салідарнасці «Разам» – **Алесь Макаеў**, ад аргкамітэта партыі «Беларускі рух» – **Вацлаў Арэшка**, ад руху «За дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі» – **Уладзімір Някляеў**, а таксама некалькі прадстаўнікоў рэгіянальных дэмакратычных кааліцый.

Учора Рада прыняла заяву, у якой сцвярджаецца, што прайшоўшыя выбары не адпавядаюць міжнародным стандартам. Адначасова адзначаецца, што “частка дэмакратычных структур праявіла непаслядоўнасць сваіх пазіцый, няздольнасць да стратэгічнага бачання сітуацыі і да салідарнага супрацоўніцтва.

Мы будзем працаваць над далейшым аб’яднаннем дэмакратычных сіл, здольных змагацца супраць дыктатуры.

Мы заклікаем дэмакратычныя, грамадскія і палітычныя сілы да супольнай кампаніі «За новыя выбары, за новую ўладу!».

Толькі свабодныя, справядлівыя выбары могуць стаць шляхам да выхаду з крызісу, да паляпшэння жыцця беларусаў”.

Намечана правесці 24 лістапада акцыю пратэсту.

**Генадзь БУРСКІ.**

НАДВОР’Е

## Холадна і дажджліва

***У сераду 21 верасня*** ноччу месцамі, днём на большай частцы тэрыторыі чакаюцца кароткачасовыя дажджы. Ноччу будзе +2…+8°С, днём – +9…+15.

ПРАЕКТ

## Заробкі бюджэтнікаў вырастуць у 2017 годзе толькі на 9 працэнтаў?

Гэта вынікае з праекта Дзяржаўнага бюджэту на 2017 год. Калі так атрымаецца ў рэальнасці, то, думаецца, многія не вельмі абрадуюцца. Сёння сярэднія заробкі бюджэтнікаў не дасягаюць і 600 рублёў, значыць, з павышэннем заробкаў пляскаць у ладкі ім не давядзецца.

**Аксана МІРОНАВА.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Михаил КАДЫРОВ, доктор сельскохозяйственных наук, профессор, лауреат Государственной премии в области науки и техники

# Россия–Запад: белорусское настоящее и будущее

Как бы там ни было, но в России, на мой взгляд, дела идут несколько лучше, чем у нас, хотя проблем тоже хватает. Там уже серьезно увеличили производство мяса птицы, яиц, тракторов, автомобилей... Многие наши товары становятся у них невостребованными.

В России – пусть незначительный, но рост. У нас – серьезное нарастание экономического кризиса, падение экспорта, отсутствие перспектив дальнейшего развития.

Усиление конкурентоспособности российских предприятий грозит дальнейшим сокращением доли многих белорусских товаров на огромнейшем рынке соседней страны, а на другие рынки, даже африканские и азиатские, пробиться становится все труднее. Все это, естественно, не будет способствовать развитию нашей экономики, выходу из нынешнего серьезнейшего кризиса и, следовательно, нормализации в целом жизненной ситуации.

Конечно, существует реальная опасность, что ради удержания Беларуси в зоне своего влияния, которая создана Россией вместе с Лукашенко за 22 года, Кремль может пойти, скажем так, на самые крутые меры. Вот поэтому, по-моему, следует настойчиво повторять, напоминать один важный тезис: нам следует, всячески укрепляя свой государственный суверенитет, учиться жить в мире и согласии с Россией, не используя при этом те меры и методы, которыми долгое время злоупотреблял Лукашенко, сдавший, по сути, России всё под пустой «лямант», что он гарант независимости и процветания. В реальности налицо сильнейшее возрастание нашей зависимости от Москвы, явная угроза нашему государственному суверенитету.

И все это случилось не потому, что не было других вариантов взаимоотношений с Россией. Это все, считаю, случилось из-за субъективизма А.Лукашенко, его своеобразного понимания (или непонимания) диалектики, отсутствия контроля за его действиями со стороны парламента и общества. Александр Григорьевич вот уже 22 года руководит Беларусью по принципу «что хочу, то и ворочу».

*(Окончание на 2-й стр.)*

САЛІДАРНАСЦЬ

## Пра загубленых беларусаў помняць у Нідэрландах




У галандскім горадзе Эйндховене адбылася штогадовая цырымонія памяці загубленых беларусаў **Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага.**

Цырымонія прайшла ў жывога мемарыяла “Чатыры дрэвы”, якія былі пасаджаны пры ўдзеле гарадскіх улад 16 верасня 2008 года ў памяць аб тых, каго злыя людзі звялі з гэтага свету.

СТОП-КАДР

## Спявалі, танцавалі, малявалі…



У гомельскай кавярні «Флэт» гарадская суполка Таварыства беларускай мовы зладзіла фэст удзельнікаў беларускамоўнай адукацыі. Дзеці розных узростаў з бацькамі, дзядулямі і бабулямі вучыліся разам спяваць беларускія песні, танцаваць, прыдумляць і маляваць ілюстрацыі да беларускіх казак, рабіць лялькі – і проста бавіліся з любімымі цацкамі.

«*Нам хацелася сабраць усіх разам*, – кажа кіраўніца гарадской суполкі ТБМ **Алеся Аўласевіч,** – *каб перазнаёміць і дзяцей, і бацькоў і такім чынам праз знаёмствы пашырыць у горадзе беларускамоўны асяродак*”.

ЧУТКІ

## Віктара Ганчарэнку «сватаюць» у польскі клуб?

*Вядомы футбольны трэнер з Беларусі можа ўзначаліць варшаўскую “Легію”.*

У польскіх СМІ з’явілася інфармацыя, што **Віктар Ганчарэнка**, які зараз з’яўляецца галоўным трэнерам расійскай “Уфы”, прысутнічаў на дамашнім матчы “Легіі” ў Лізе чэмпіёнаў з дортмундскай “Барусіяй” (*палякі прайгралі – 0:6. –* **Аўт**.).

Раней паведамлялася, што варшаўскі клуб на самай справе цікавіцца беларускім трэнерам, а настаўнік “Легіі” **Беснік Хасі** ўжо адпраўлены ў адстаўку.

Тым часам генеральны дырэктар “Уфы” **Шаміль Газізаў** з гэтай нагоды выказаўся так: *“У наш клуб ніякіх афіцыйных запытаў не паступала, таму Віктар Міхайлавіч працягвае працу”.*

**Ад рэдакцыі газеты «Народная Воля»**

*Літаратурны твор – гэта заўжды плён думак і фантазіі аўтара, які мастацкімі сродкамі спрабуе данесці да чытача тую ці іншую ідэю, вобраз і адлюстраваць з'яву, тэндэнцыю, каштоўнасці і заганы часу, у які мы жывём. Менавіта з такой аксіёмы сыходзіла рэдакцыя газеты "Народная Воля", калі, атрымаўшы тэкст сатырычнай паэмы "Даў заданне Правадыр напісаць "Войну и мир", прымала рашэнне апублікаваць яе поўнасцю.*

*Да гэтага часу ў беларускай літаратуры існавалі дзве ананімныя паэмы, якія адлюстроўвалі літаратурныя працэсы: "Тарас на Парнасе" і "Сказ пра Лысую гару". Нам здаецца, што паэма "Даў заданне Правадыр напісаць "Войну и мир" стане ўпоравень з гэтымі яркімі творамі. Напісана яна адмыслова, бездакорна (гэта можа засведчыць любы прыстойны літаратар), з мастацкім густам, сатырычна-іранічным поглядам аўтара на многія бакі нашага жыцця. Гэта яшчэ адзін важкі аргумент, які падштурхнуў рэдакцыю надрукаваць паэму на старонках "Народнай Волі".*

Макар ДРУКАР

# Даў заданне Правадыр напісаць «Войну и мир»…

*Сатырычная паэма*

## Страчаны спакой

Хадзіў, як брында, дзень каторы
Пісьменнік слынны Трындунец.
Дый як жа быць яму ў гуморы?
Жыццю спакойнаму – капец.

Нібы за пазухай у Бога
Ён жыў да гэтае пары.
Хаця было руціны многа,
Ды ўсё ж нямала і твáрыў.

Вунь на паліцы стройны шэраг –
На ўсю сцяну! –
Ягоных кніг.
І там няма раманаў "шэрых"
Ці, як гаворыцца, сырых.

Чытацьмуць і цяпер, і потым…
Прынамсі, гэтак лічыць сам,

Бо Трындунец крывёй і потам,
А не чарнілам іх пісаў.

Даброт і грошай меў ад пуза –
Чаго яшчэ жадаць? Але
Аднойчы творчага саюза
Стаць давялося на чале.

Здавалася б, такія ўмовы,
Каб наталіць уласны шал!
Бо Трындунец не шараговы –
Літаратурны генерал!

Як колісь Танк!
Адзначыць варта:
Так і было яно спярша.
Лічыў, удала легла карта,
Пашана, званні – як з каўша.

Устаў на ногі – цуд дый годзе! –
Скляпаны Трындунцом саюз.
У гэтай картачнай калодзе
Ён акурат казырны туз.

Разлічваў, што да самай смерці
Галоўным будзе ў той гульні,
Але бяду нагналі чэрці.
Настрой паганы ў старшыні,

І нават у душы трывога…
Учора раніцай ганец
Паведаміў, што да Самога
Прыбыць павінны Трындунец.

Падобны выклік неадкладны
Не можа скончыцца дабром:

Ён, Трындунец, слуга прыўладны,
Самога адчуваў нутром.

(Што Правадыр – мужык суровы,
Вядома ўсім здаўна яшчэ:
Не кідае на вецер словы,
Як трэба, дык з пляча сячэ.)

У Трындунца трымцелі ногі,
Калі ступаў па дыване.
А Правадыр і праўда строгі –
Нібы з партрэта на сцяне.

Яшчэ змрачней нахмурыў бровы
(Аж Трындунец у крэсла ўрос)
І без ніякае прадмовы
Чарговы распачаў разнос:

– Я вартых твораў штосьці не бачу, –
Пагрозна зыркнуў спадылба. –
Саюз твой не дае аддачу
Належную. Не так хіба?

Вам даў я льготы-прывілеі,
Я грошы-прэміі даю…
І думаў, спраўдзяцца надзеі
На хеўру творчую тваю.

Аднак ніводзін з гэтай хеўры
Мне не прыносіць з неба зор.
Дзе абяцаныя шэдэўры?
Дзе хоць адзін прыстойны твор?

Пісак, як кажуць, маеш мора.
Чаму ж не рупяцца яны?

Чаму ніхто не выдаў твора
Накшталт "Поднятой целины"?

Ну, словам, кожны хай карпее, –
Падвёў рахунак Правадыр, –
Каб тут ляжала эпапея –
Такая, як "Война и мир".

Хай пішуць пра жыццё народа
І, можа, трохі пра мяне…
На гэта я даю паўгода.
Ты ўцяміў, Трындунец, ці не?

Калі з патуг не будзе толку,
Як рэзультат дасі пусты,
Я разганю тваю суполку,
І не ў фаворы будзеш ты…

Пачуўшы гэткую пагрозу,
Ад нечаканасці такой
Хіба ж не апупее розум,
Ці ж будзе на душы спакой?

Дык Трындунец і сну не ведаў –
Мазгі, як кажуць, набакір,
Вячэраў дрэнна ён і снедаў:
Гатоў лічыць за дармаедаў
Тварцоў ягоных Правадыр.

На выгляд Трындунец як хворы
(Здароўя й праўда дрэнны стан),
Даймалі думкі дзень каторы:
"Ці з'явяцца шэдэўры-творы?
Дзе эпахальны ўзяць раман?.."

## І жук, і жаба

Каб растлумачыць одум гэткі,
Каб стала ясна чытачу,
Я што-нішто накшталт даведкі
Прапанаваць пакуль хачу.

Той час ужо далёка ззаду,
Калі сучасны Правадыр
"Падняў з гразі" (так кажа) ўладу,
І трапіла краіна ў вір.

А што ж рабіць з уладай трэба,
Калі "падняў яе з гразі"?
Ды тое, што – засведчыць Неба! –
Рабілі каралі й князі.

Ідэалогія – аснова
Улады кожнай і любой.
А ў ёй і герб, і сцяг, і мова,
І творчы люд уласны, свой.

Калі тварцы складацьмуць оды
Пра існы лад, правадыра,
Дык будзе ціша-гладзь заўсёды,
Народ не ўспрыме бунтара.

Тутэйшы Правадыр таксама
Не агамолак, не дурны.

Была ў яго свая праграма,
І многа ўзяў са стараны.

Ён мець хацеў ва ўласнай хеўры
І літаратараў-пісак.
Рабіў абходныя манеўры,
Ім дагаджаў і так, і сяк.

Ды не рвануліся пісакі
Кагалам да яго ў хаўрус,
Хоць абяцаліся "прысмакі",
І шмат другіх было спакус.

Не вабіў лёс марыянетак
Тварцоў сапраўдных з веку ў век.
Дадаткам здарылася гэтак,
Што са святынь пачаўся здзек.

Яны, спрадвечныя святыні,
Для новага Правадыра
Былі нікчэмнымі, пустымі –
Іх замяніць даўно пара.

"Пагоні" быў прысуд суровы,
І сцяга незайздросны лёс,
І парастак тутэйшай мовы
Зламаў-стаптаў ён, каб не рос.

Пісакі да яго – варожа.
Без мовы літаратар – нуль:
Чытаць і разумець не зможа
Ніхто, апроч дзядуль-бабуль.

Тым больш тварцы не захацелі
Служыць яму, Правадыру.
– Я вас трымацьму ў чорным целе!
Я ў вас маёмасць забяру! –

Раз'ятрыўся Галоўны Самы. –
На сродкі "лапу накладу"!
І гэта быў пачатак драмы,
Што прывяла з сабой бяду.

Грабеж адбыўся ўвачавідкі:
У непакорлівых тварцоў
Забрала ўлада ўсё да ніткі…
І час прыйшоў для "трындунцоў"!

Яны з усіх паперлі дзірак
Наверх, нібыта прусакі.
А Трындунцу (яно й не дзіва)
Быў успадоб расклад такі.

Ён на плячах насіў пагоны,
Чым зарабляў сабе на хлеб.
Але й вядомым быў ягоны
Літаратурны шырпатрэб.

Хто ў творчасці хоць нешта петрыў,
Той не ўспрымаў яго ўсур'ёз.
А да літаратурных мэтраў
Тым больш службовец не дарос.

А так хацеў у іх кагорту!
Каб узабрацца на Парнас,
Гатовы быў служыць хоць чорту…
І вось настаў ягоны час!

Сваю задуму ў вушы ўвесці
Змог Трындунец Правадыру:
– Усё ў нас будзе чэсць па чэсці,
Як я другі саюз ствару!

У нас народ таленавіты,
І тых, хто нешта піша, – рáць.
Крыху прасею іх праз сіта
І цэлы полк змагу сабраць!

Здабыткаў будзе да халеры –
Падказвае маё нутро!
І Правадыр яму паверыў,
І той ідэі даў дабро.

І крылы выраслі ў саюза!
Як той казаў, пайшоў працэс!

Вада, што хлынула са шлюза –
Хто толькі ў той саюз ні лез!

Нагамі расчыніўшы дзверы,
Неўтаймаванаю гурбой
Ішлі ў саюз пенсіянеры,
Як быццам на апошні бой.

Падастаўшы з чамаданаў,
"Грасбухі" неслі ў кабінет.
Лічылі, што ад іх раманаў
Нарэшце здрыганецца свет.

Меланхалічныя кабеты
І летуценныя жанкі,
Што з года ў год у райгазеты
Насілі "пра любоў сцішкі",

Як матылькі, ў саюз ляцелі
З усіх ускраін і куткоў.
(Нібы на творчае панэлі –
Чародкі гэтых матылькоў.)

Ну, словам, творчы сверб нятленны
Адчулі графаманы ўсе.
Разлічвалі, што статус "члена"
Нарэшце славу прынясе.

Што будуць друкаваць газеты,
Часопісы іх кожны твор,
Хоць не пускалі ў кабінеты
Рэдактары да гэтых пор.

І спадзяваліся няздары,
Што пойдзе ўсё цяпер ладком,
Што збудуцца нарэшце мары,
Што будуць грэбці ганарары
Ці шуфлем, ці жалезняком.

Працэс ішоў на ўзнёслай хвалі,
І ён прынёс харошы плён:
"Дастойных членаў" назбіралі
Калі не полк, дык батальён.

Натхненню ў клёпках стала цесна,
Імпэт падвоіўся, калі
Усё, што меў саюз "нячэсны",
Ім, "трындунцам", перадалі.

Панеслі ў выдавецтвы творы,
Ішлі ў часопісы сцяной,
І іхніх кніг у крамах – горы,
Ды ўсе – літаратурны гной.

Ад графаманаў не адбіцца,
Не ўтаймаваць "тварцоў" ніяк:

З такою пыхаю, як быццам
З іх кожны Колас ці Бальзак.

На той працэс глядзеў панура
Суполкі новай старшыня,
Бо неўспадоб "макулатура" –
Літаратурная дрысня.

Жыла ў душы надзея тая
(Яе не выкажаш услых),
Што Правадыр жа не чытае
Саюзам выдадзеных кніг.

Сказаць дакладна немагчыма,
Ці гэта праўда, ці не так.
Ва ўсякім разе нейкім чынам
Празнаў пра плён сваіх пісак.

Тады наконт "Войны и мира"
І даў заданне старшыні.
…У небаракі думкі вірам
Круціцца сталі дзень пры дні:

Ці ўзрадуе шэдэўрам хтосьці
З калег ягоных па пяру,
Каб зноў не атрымаць у косці,
Каб дагадзіць Правадыру?..

## Эліта

Адзначыць трэба: у суполцы,
Што паявілася на свет,
Не ўсіх знайшлі "на барахолцы"
І членскі выдалі білет.

Прыйшлі ў кагал стракаты гэты,
Дзе спрэс, прабачце, вахлакі,
І ніштаватыя паэты –
Лічы, сярэдняе рукі.

Былі й празаікі, канешне,
Зусім не скажаш пра якіх
"Змяшалі Божы дар з яешняй" –
Нямала мелі годных кніг.

Ды не было тварца ў кагале
Накшталт Бураўкіна, Брыля.

Яны шэдэўраў не пісалі –
Такіх, як "Новая зямля".

Стругалі вершыкі, раманы,
Прычым лічылі (без маны!),
Што кожны – геній непрызнаны,
"Напалеонаўскія планы"
Выношвалі ў душы яны.

Ніхто не выбіўся б у мэтры,
На лбе набіўшы нават гуз.
Таму для іх – глыток паветра,
Аддуха Трындунцоў саюз.

І, апынуўшыся ў фаворы,
Так званыя сераднякі

Распушылі, як кажуць, пёры,
Пайшлі да славы напрасткі.

Хоць Трындунец, каб іх завабіць,
Наабяцаў даброт-пасад,
Ды іх было з дзясятак, мабыць,
Ва ўсякім разе – не зашмат.

Ці ж выбар нейкі ёсць ва ўлады,
Як кадравы рэзерв пусты?
Ім сапраўды далі пасады,
Літаратурныя пасты

І дапусцілі да "карыта",
Каб зналі смак даброт-выгод…

У "батальёне" як эліта
Быў гэты нешматлікі "ўзвод".

У выдавецтве, скажам, лейцы
У рукі ўзяў паэт Пятак.
(Пятак жа не раўня капейцы,
Дык хай кіруе – ці не так?)

Ягоным верным памагатым
Прызначаны паэт Шуруп,
Каб самым тлумным гарлахватам
Усё-ткі ён даваў адлуп.

Быў колісь Ранні шэрай мышкай
(Няўцям – празаік ці паэт),

А стаўшы пры саюзе шышкай,
Не ўсіх пускаў у кабінет.

Раней амаль не быў вядомым
Пісьменнік сціплы Паляшук.
А стаў над выдавецкім домам,
Дык і надзьмуўся, як капшук,

З пагардай нос, як кажуць, верне
Ад тых, з кім крочыў па жыцці.
Хоць у ягоных творах зерне,
Бадай, і з лупай не знайсці.

А вось паэтку Сыраежку,
Няйнакш, заблытаў сатана:

Ступіла не на тую сцежку –
Да Трындунца прыйшла яна.

Тварыць магла таленавіта,
І славы ўдостатку было,
Ды, мусіць, вабіла "карыта",
Як вабіць матылька святло.

Праз тэрмін не зусім кароткі,
Як праясніліся глузды,
Паэтка зразумела ўсё-ткі:
Яна папала не туды.

І пішуць "трындунцы" нягегла,
Яшчэ й грызуцца, як бабры…

І Сыраежка перабегла,
Вярнулася ў саюз стары.

Усё ішло як след нібыта,
Нішто не абяцала хмар.
І "трындунцоўская" эліта
На фоне той гайні няздар

Глядзелася як быццам чынна.
Ды толькі ўражанне – падман.
"Сярод авечак – малайчына,
Сярод разумных – сам баран", –

Здаецца, так ці трохі йначай
Сказаў пра гэтакіх мудрэц.
Але праблем зусім не бачыў
Да той сустрэчы Трындунец…

## «Агітбрыгада»

Не будзе, пэўна, нечаканкі,
Як выкажу пасыл зямны:
Заўсёды знойдуцца падпанкі,
Калі на свеце ёсць паны.

У "трындунцоўскае" эліты
Таксама меўся ніжні слой.
І ён зусім несамавіты,
Даўно ўжо страціў гонар свой.

У тым саюзе не заўсёды
Была нірвана, ціша-гладзь.
Усе даброты і выгоды
Патрэбна ў нечым адрабляць.

"Ніжэйшай" знаці досыць часта
Перападала штось, але
Галопам беглі, як начальства
Іх накіруе ці пашле.

Хто з чытачамі на сустрэчы
Павінен ездзіць на раён?

Тут "ніжні слой" якраз дарэчы –
Хоць нешта людзям скажа ён.

Пашлеш няздару-графамана
Чытаць вучнёўскія "сцішкі",
Дык потым можа быць пагана –
"Паэта" ўспрымуць у штыкі.

Хай лепей творчыя калекі
Бурчаць "сцішкі" сабе пад нос…
Дык тры-чатыры чалавекі
І валаклі чытацкі воз.

Да чытачоў амаль штодзённа
З "нары" вылазіў Усяед.
Не выдаваў на маладзёна,
Але яшчэ зусім не дзед.

Ён і пісака разнастайны:
Нататка, згадка, успамін.
Вось толькі якасць… Як на стайні:
Што ні напіша – гной адзін.

Ды сам ён думае, што класік,
На пастамент пара даўно.
Калісьці дужа многа "квасіў",
Няважна – чача ці віно.

Заўсёднік той "агітбрыгады"
І чалавек харошы Клёк.
Ён "ваяжам" зусім не рады,
Ды трэба дбаць пра кашалёк.

Раней быў майстрам,
хоць не першым,
І "здзьмуўся", мусіць… Для дзяцей
Стаў выпінаць натужна вершы,
Бо для дзяцей, лічыў, – прасцей.

Парой да Клёка і Ўсяеда
Шчаміўся ў хеўру і Бурчук.
Раней яго ніхто не ведаў,
А зараз кніжак – сорак штук.

На "нобеля" за дэтэктывы
Саюз прасоўваў Бурчука,
Ды рэзультат, на жаль, паршывы –
Не ўзбагацеў нашармака.

І дробныя другія сошкі
Да тых "байцоў" тады-сяды
Маглі прыбіцца, каб хоць трошкі
Пазбавіць клёпкі ад нуды.

Даважкам бралі і паэтак.
Хоць з іх карысці не відно,
Ды з дзеўкамі не сумна гэтак –
Памацаць можна за сцягно…

…«Брыгада» ў гэткім жа саставе
Сабралася ў чарговы раз.
Тварцоў сустрэне неўзабаве
Заможны, выбітны калгас.

Там збудавалі Дом культуры,
І старшыня чамусь рашыў:

Тварцы аздобяць быт пануры,
Наладзяць свята для душы.

Прыбіліся Шуруп і Ранні,
Папоўнілі "дэсантны ўзвод":
У іх з'явілася жаданне
Схадзіць, як кажуць, у народ.

А дзве паэткі-маладзіцы
Былі запрошаны знарок:
У іх, як чырвы, ягадзіцы
І "поўна пазуха цыцок".

Людзей было на той сустрэчы
Нямала на зыходзе дня:
Прыгнаў жа нават люд старэчы
У Дом культуры старшыня.

Прыехаў са шматлікай світай
Раённы бос – свінні тлусцей.
Ён, таўстапузы, менавіта
Са сцэны прадстаўляў гасцей.

Бос гаварыў – як гной варочаў,
Аж пот сцякаў, нібы з вядра:
– Судзьбе мы благадарны очань,
Што з намі слова масцяра.

Такая эта чэсць калхозу!
Паверце, дажа пастухі
Чытаюць нанач вашу прозу
І знаюць наізусць сціхі.

Сказаць папраўдзе, словам гэтым
Не надта верылі тварцы.
А ён, раённы бос, з імпэтам
Падсумаваў напрыканцы:

– Паслушаем ахотна ўсе мы
Праізвідзенія гасцей.
Вы ж, масцяра, ішчыце цемы
У нас для новых павясцей!

Затым дзве бітыя гадзіны
Чыталі творы "масцяра".

А ў слухачоў намер адзіны:
"Пайсці б да роднае хаціны,
Бо там галодная скаціна,
Жанкам кароў даіць пара…"

Дый юзгаў нецярпліва ў крэсле,
Сяброў прыспешваў Усяед,
Бо вестку на хвастах прынеслі
Сарокі: будзе і банкет.

Тварцы на памяць аб сустрэчы
Ўручылі скрыню ўласных кніг.
(Ніхто з калгаснікаў, дарэчы,
Не прачытаў напотым іх).

Нарэшце й сапраўды кагалам
Паехалі на шашлыкі.
(Ганебна есці бульбу з салам
У дзень адметнейшы такі).

Раённы бос казаў гулліва:
– Папробуеце здзесь ухі



І вып'яце па кружке піва –
Пра нас напішаце сціхі!

Прыйшлося ім для весялосці
Адчуць не толькі піва смак.
Быў і каньяк:
Такія госці
Штодня не ездзяць, як-ніяк,

Дык і знайшлі ў калгасе сродкі
На "сціплы" сабантуй такі.
Як залілі належна глоткі,
Калі набілі "валлякі",

Да нешматслоўнага Шурупа
Падсунуўся раённы бос:

– Вазможна, выглядзіт і глупа,
Но я хачу задаць вапрос.

Канечна, вы для нас куміры.
Аднака дайце мне атвет:
Вот пачаму "Войны и мира" –
Па ураўню! – сяводня нет?

Застыла на паляне ціша:
Праблема гэтая – як струп…
– Вось ён раман такі й напіша, –
З усмешкай вымавіў Шуруп

І на Ўсяеда кінуў позірк. –
Яму, бадай, пад сілу ўсё…

А той у паўляжачай позе
Ужо захроп, як парасё,

І мармытаў парою штосьці.
Здаволіў боса той "атвет".
Былі давольнымі і госці –
Набаляваліся як след!

Калі збіраліся дадому
(А хто-ніхто ўставаў з калень),
Яны, тварцы, адчулі стому:
Так шчыравалі ў гэты дзень!

Глядзелі ўсе няўцямна-тупа
(Быў у адключцы толькі Клёк),

Як старшыня чамусь Шурупа
Па-змоўніцку адвёў убок.

Шурупу ён шапнуў на вуха,
Каністру сунуўшы ў руку:
– У ёй не нейкая сівуха,
Туды наліў я першаку…

## Ад пахвальбы да дзяльбы

Не блізка ехаць да сталіцы…
Рассеяўся ў мазгах дурман,
Дык трэба, пэўна ж, пахмяліцца –
Ва ўсіх не надта добры стан.

Спыніцца можна каля крамы,
Ды грошай адшчыкнуць шкада.
І тут Бурчук, хітрэйшы самы,
Таемна ўсклікнуў:
– Не бяда!

Ану, Шуруп, паказвай быстра,
Што атрымаў ад старшыні.
Вунь, Усяед, стаіць каністра,
Дык ты панюхай-зазірні.

Хоць не хацеў Шуруп дзяліцца
Падараваным першаком,
Ды давялося ўсё ж змірыцца,
Інакш палічаць "кулаком",

Распусцяць у саюзе плёткі,
Маўляў, Шуруп – скупы куркуль.
А ён людзьмі кіруе ўсё-ткі,
Аўтарытэтны ён пакуль.

Як толькі, стаўшы на калені,
Заглыкаў Усяед пітво,
Ён акрыяў і ў захапленні
Усклікнуў:
– Самагонка – во!

Калі не ўзяць яе на грудзі
Без прамаруджвання, цяпер,
Дык гэта страшным грэхам будзе…
Усе адобрылі намер!

Але ж прыткнуцца дзесьці трэба,
Каб асушыць каністру-гляк.
Дый трэба хоць кавалак хлеба,
Інача апячэш гарляк.

Тут Усяед, ужо паддаты,
У рукі ўзяў, як кажуць, сцяг:
– Паехалі ка мне дахаты,
Бо я часовы халасцяк!

На цэлы месяц жонка й цешча
На бераг з'ехалі марскі.
Хай хваля ім у плечы плешча,
А мы зальём у гарлякі.

Над тым не разважалі доўга:
Чаму б не ўспомніць маладосць?

Дый ва Ўсяеда ёсць лядоўня,
А значыць, і закуска ёсць.

Адзін Шуруп пазыркваў крыва
І трохі муляўся спярша:
Ён болей горнецца да піва,
Да "гары" не ляжыць душа.

Аднак жа падтрымаў забаву
І разважаў пры гэтым так:
Яны, "насосы", на халяву
Ягоны выжлукцяць пяршак.

Калі ж паедзе, дык хоць "сотку"
Свайго, уласнага, кульне…
Зноў Усяед разявіў глотку:
– Адзінства заўсягды ў цане!

Вядома ўсім: пад чарку-скварку
Гамонка мае добры плён.
Аднак бывае, што і ў сварку
Перарастае выпівон.

Вось і ў кватэры Усяеда
"Пад звон бакалаў" першы час
Вялася ўзнёслая бяседа
Пра тых, хто лезе на Парнас.

"Абсмоктвалі" харэі-ямбы
І пелі, што не ўздзіў, яны
Адзін другому дыфірамбы.
– Ты, Ранні, – талент незямны!

Таму і прэміі, і званні
Не беспадстаўныя, – Бурчук
Нахвальваў "талента".
А Ранні
(Ён, як гавораць, хітры жук),

Зачараваны пахвальбою,
Слаў панегірыкі ў адказ:
– Шэдэўры пішуцца табою!
Таму і «нобель» – самы раз.

А Клёк казаў аб Усяедзе:
– Ты гэтак пішаш, што ого!
Ідзеш за Мележам па следзе
І можаш перагнаць яго.

Табой заткнутыя за пояс
Тарасаў, Цвірка і Арлоў.
Цябе чытае люд запоем!
Не шкадаваў узнёслых слоў

І Усяед. Казаў ён Клёку:
– Ты Вітку пераплюнуць змог!
На іх усіх глядзеў звысоку
Шуруп – як на анёлаў Бог.

(Хацелася яшчэ ў калгасе
Паслаць сваіх «анёлаў» нах.)
Як пры жыцці гатовы класік,
Шуруп пра свой жыццёвы шлях

Падрыхтаваў «грасбух» нататкаў.
Хоць многа клопатаў і спраў,
Ён рукапісы для нашчадкаў
Па папках загадзя расклаў.

А чым займаліся паэткі,
Пакуль трындзелі «паханы»?
Для іх не ўздзіў «фуршэцік» гэткі –
Упоравень пілі яны.

Хоць не святых яны паводзін
(На плацці – да сцягна разрэз),
Але пакуль з тварцоў ніводзін
У цыцкі іхнія не лез.

Калі ўзаемнай пахвальбою
Сябе расчулілі да слёз,

Узнёслы тон, само сабою,
Павольна ў зваду перарос.

Размова йшла пра ўзнагароды.
Хоць меў іх кожны цераз край,
Ды не прыйшлі яны да згоды
(Узнік увогуле раздрай),

Хто з іх Дзяржпрэміі дастойны
І гэтым разам заграбе
(Заўжды бязлітасныя «войны»
Ішлі ў саюзе пры дзяльбе).

Ляцелі словы, быццам стрэлы,
Тырады зневажальных фраз:
– Ты, графаман закасцянелы,
Загроб яе ў мінулы раз!

– Затое новую кватэру
Ты атрымаў нашармака!
Ці ж ты паэт? Псуеш паперу,
А вартага няма й радка!

– Ці ж ёсць яны ў цябе, старпёра?
А прэміі – штогод амаль!
– А ты забыў, што пазаўчора
Даў Правадыр табе медаль?

– Але ж табе ўручыў ён ордэн,
Хоць, праўда, не было за што.
Цяпер з той цацкай ходзіш горда,
Павесіўшы на паліто...

Ды ўрэшце мірам, як зазвычай,
Закончылася іх дзяльба.
Ніхто не гыркаў ваяўніча
І больш не зыркаў спадылба.

Для іх каністра выйшла зноўку,
Так мовіць бы, на першы план.
І з Клёка можна віць вяроўку,
А Усяед, нібы цурбан,

Зваліўся проста на падлогу,
Як напярэдадні, захроп.
Шуруп і Ранні, дзякуй Богу,
Да «логава» знайшлі дарогу,
Ды і Бурчук не ўпаў, як сноп.

Расчаравана леглі дзеўкі
Ад мужыкоў у старане.
У бедных не было спадзеўкі,
Што хтосьці іх «таптаць» пачне...

## Ідэя

Бадай, да полудня ў кватэры
Ім сон вылечваў бы мазгі,
Ды разбудзіў званок у дзверы –
Бесперапынны і даўгі.

З парога ўзбуджана паведаў
Гаспадару ганец-хлапец,
Што хоча бачыць Усяеда –
І тэрмінова! – Трындунец.

Ды і «эліце» ўсёй сабрацца
Загадана ў кіраўніка,
Але ні дома, ні на працы
Няма Шурупа, Бурчука...

Маўчаць чамусьці тэлефоны,
Ніхто не ведае з радні...
Дык старшыня амаль шалёны,
Настрой паганы ў старшыні!

Адказ гучаў для хлопца дзіўна:
– Ты больш не каламуць ваду.
Скажы, не пройдзе і гадзіна,
Як іх збяру і прывяду.

Супраціўлялася кагорта,
Як расштурхоўваў гаспадар.
Усе глядзеліся пацёрта,
Каго ні ўзяць – азызлы твар.

І праз гадзіну менавіта
(Трымае слова Усяед!)
Уся ўвалілася эліта
У трындунцовы кабінет.

За ёю хмара перагару,
Не адстаючы, імкне...
Каб выпусціць на волю хмару,
Адкрылі фортачку ў акне.

Шуруп таропка патлумачыў:
– Было мерапрыемства ў нас.
І не ў кавярні ці на дачы –
Учора ездзілі ў калгас...

– Дык што, цяпер даймае смага,
І не шавеляцца глузды?
А хай бы вы – было б няблага –
Там засталіся назаўжды!

Там коні, свінні і каровы –
Вам іх і пасвіць, – Трындунец
Пачаў свой маналог суровы, –
Узяўшы пугу ці дубец!

Варочаць гной, а не паперу
Вам, вахлакам, даўно пара,
Бо ўжо ніякага даверу
Нямашака ў Правадыра!

"Чаму, – спытаў, – твае "джыгіты"
Не створаць нам "Войну и мир"?"
Быў Правадыр такі сярдзіты!
Вы падвялі пад манастыр

Мяне і ўвесь саюз наш творчы,
Усю пісьменніцкую раць!
Не мог я пазіраць у вочы,
Не ведаў, што Яму сказаць…

Уставіў "тры капейкі" Ранні:
– Ну проста дзіва – трэба ж так:
Учора гэткае ж пытанне
І нам задаў адзін мудак.

– Ты, Ранні, зараз не ў калгасе,
Дык лепей прытрымай язык!
Усё, што ёсць, увадначассе
Абрэзаць можа кіраўнік,

Калі Яму "Войны и мира"
На стол не пакладзём тамы.
Дый захаваць жа чэсць мундзіра
У рэшце рэшт павінны мы,

Бо выглядае непрыгожа,
Як Сам выказвае дакор…
Ну, словам, хто, скажыце, можа
Адужаць эпахальны твор?

На нейкі час у тым пакоі
Запанавала цішыня.
Не снілася бяды такое!
Во азадачыў старшыня!

Нарэшце голасам з магілы
Азваўся сцішана Шуруп:
– Хоць мы парвём, як кажуць, жылы,
Хоць надарвём, як кажуць, пуп,

Але агораць эпапею
Не ўдасца і гадоў за сто.
Ва ўсякім разе я не ўмею
Пісаць і думаць, як Талстой…

– І я не напішу такога…
– І я, – гучалі галасы.
– Ну дзе мы знойдзем Льва Талстога?
Такі адзін на ўсе часы!

– Прызнаемся давайце шчыра:
Наперадзе чакае швах.
Шэдэўр накшталт "Войны и мира"
Нікому з нас не па зубах…

– Якімі б ні былі патугі,
Ды будзе высілак пусты…

Выходзіць, праўда трэба пугі
Ім браць,
"Круціць быкам хвасты".

Вачыма лыпаў, быццам п'яны,
Сам Трындунец, сагнуты ў крук.
Але агучыў нечакана
Ідэю слушную Бурчук:

– Калі не могуць эпапею
Стварыць ні Ранні, ні Ўсяед,
Хай над шэдэўрам пакарпее
Той, хто пайшоў у іншы свет!

Узяць, да прыкладу, Лынькова…
А лепей – Чорнага Кузьму.
Ён адмысловы майстар слова!
Пад сілу гэткі твор яму!

І вы не зыркайце вачыма,
Маўляў, паехалі глузды.
Чытаў я недзе, што магчыма
Зрабіць такое сапраўды.

Хоць спосаб вельмі экзатычны,
Але павінны заўтра ж мы
Сеанс правесці спірытычны,
Сюды паклікаць дух Кузьмы!

"Навошта?" – скажа з вас каторы.
Такі, калегі, каленкор:
Пісьменнікі дыктуюць творы,
Як іх папросіць сеансёр!

Падобных выпадкаў нямала.
Хай кожны з вас напружыць клёк:
Чаму хтось піша так удала?
Камусьці дыктаваў Купала,
Камусьці надыктоўваў Блок!

Засведчыў гэта люд вучоны!
Сумненняў у мяне няма,
Што паспрыяе ўсё-ткі Чорны,
Што не адмовіцца Кузьма!

На першы погляд смеху варта –
Пазваць на помач іншы свет.
Але прысутным не да жартаў,
У іх праклюнуўся імпэт.

І Трындунцу з яго пацвеліць
Не захацелася зусім,
Бо за саломінку тапелец
Хапаецца – вядома ўсім.

– Бурчук, табе і карты ў рукі! –
Бадзёра ўсклікнуў Трындунец. –

Ты майстар на такія штукі
І па нячыстай сіле спец.

Знайсці павінен сеансёра,
З якім нябожчыкі "на ты".
Займеем твор – не знацьмем гора,
І дождж пральецца залаты.

Вось толькі Чорнага – не трэба,
Кузьму не надта я люблю.
Лепш Караткевіча мы з Неба
Часова спусцім на зямлю.

Пісаў амаль што дэтэктывы –
Там і інтрыга, і сюжэт.
Ну што, "рупліўцы творчай нівы",
Цяпер "семь бед – один ответ"?

Не запярэчыла эліта,
Заззялі "рыцары пяра":
З шэдэўрам будзе шыта-крыта –
Звалілася з плячэй гара.

Так пачуваліся шчасліва!
Такі душэўны быў уздым!
…Усёй гурмой пайшлі на піва
І зноў наглыкаліся ў дым.

## Дух Караткевіча

Наведала (і вельмі скора)
Фартуна-дама Бурчука:
Знайшоў усё-ткі сеансёра.
(А можа, проста ведзьмака.)

Ён жыў у Серабранцы дзесьці.
Сівы, як лунь, нахабны твар…
Сеанс (і не адзін) правесці
Згадзіўся ён за ганарар.

Такія запрасіў "капейкі"!
(Прытым, як кажуць, танкам пёр).
Нібы не "Караткевіч нейкі",
А сам напіша гэты твор.

Як на двары ўжо цёмна стала,
І месяц выплыў спадцішка,
Прыйшла эліта ўсім саставам
Да сеансёра-ведзьмака.

На ўсіх парадныя касцюмы,
І кожны пахне, як букет.
(З нагоды гэткае парфумы
За вушы пырснуў і Усяед.)

У Трындунца для важнай справы
Ляжаў у тэчцы дыктафон:
Як Класік дыктавацьме главы,
На стужку ўсё запіша ён.

Вядзьмак давёў пры інструктажы,
Перш чым пачаўся іх сеанс:
– Ні слова хай ніхто не кажа,
Як паглыбляцца буду ў транс!

Заціхлі перамовы-спрэчкі.
Акруглы стол. Амаль патух,
Трапечацца агеньчык свечкі…
– З'явіся, Караткевіч-дух!

На сценах водбліскі застылі,
Павеяў холад незямны,
І ўсе адчулі: з гэтай хвілі
Яны ў пакоі не адны.

У тых, хто быў у тым пакоі,
Пахаладзела ўсё ўнутры…
Спакойны сеансёр затое,
Ён Трындунцу махнуў рукою:
Маўляў, пытайся, гавары!

Як побач прывід – жах дый годзе.
Ды неяк змогся Трындунец,
Сказаў у столь:
– Здароў, Валодзя,
Эдэму райскага жылец!

У Трындунца прапала сліна,
Здавалася, застыла кроў,
Калі ці збоку, ці за спінай
Пачуў панурае:
– Здароў…

– Ты выбачай, Валодзька-братка,
Што патрывожыў твой спакой.
Ды без цябе нам дужа гадка,
Сядзім-бядуем талакой.

Нас Правадыр зусім нядаўна
Да сценкі, мовіць так, прыпёр:
Загад катэгарычны даў нам –
Прынесці геніяльны твор.

Заданне тое мне на плечы
Звалілася, як цяжкі груз.
Хоць я стварыў, сказаць дарэчы,
Другі пісьменніцкі саюз,

Ды ў ім, прызнаюся табе я,
На абалдуі абалдуй.
Ім не пад сілу эпапея,
Дык на цябе адна надзея.
Ты, калі ласка, надыктуй.

Як пажадаеш, дык пазначу,
Што твор мы напісалі ўдвух…
Ты зразумеў, браток, задачу?
Маўчаў (напэўна, думаў) дух.

А потым загучалі словы,
Бы дух зачытваў прыгавор –
Бескампрамісны і суровы:
– Вам трэба геніяльны твор?

А для каго? Не для народа –
Для вашага Правадыра!
А вам важней – узнагарода,
Прыхільнасць "царскага двара".

Шэдэўры нават не гатовы
Чытаць на роднай мове люд,
Бо ўжо не знае гэтай мовы –
Яе вы затапталі ў бруд.

Тварцоў, што людзям слова неслі,
Ты абабраў і выгнаў вон,
А сам засеў у мяккім крэсле,
Як у Егіпце фараон.

Ці па заслугах? Ці па праву?
Загроб у кучу творчы друз,
Сабе на радасць, на забаву
Зглямэздаў блазенскі саюз.

Усё, што завяшчалі продкі –
Ад мовы роднай да святынь –
Збаёдана за час кароткі
Уладай, бы чужынцам тым.

У нас былі калабаранты
Падчас мінулае вайны.
За свой спакой, за хлеб, за транты
Служылі ворагам яны.

Дык вы – нібыта паліцаі!
Гатовы вычысціць сарцір,
Як вам даброт наабяцае
Ваш незаменны Правадыр.

Улада нацкуе – гатовы
Накінуцца, як ганчакі,
На тых, хто ў вас не безгаловы,
На тых, чый выбар не такі.

Парвалі б вы, як грэлку Тузік,
Мяне самога, каб дажыў.
Не быў бы я ў тваім саюзе,
Бо ён па духу мне чужы.

Чаго ж вы плешчаце аблуду,
Шэдэўры просіце ў мяне?
Нічога дыктаваць не буду,
Ды і народ вас пракляне…

Нібы жывымі сталі сцены,
На іх пачаўся нейкі рух –
То прабягалі хваляй цені…
Сыходзіў Караткевіч-дух.

Былі ва ўсіх у пятках душы,
Адно й чуваць, што сэрцаў стук…

І першым цішыню парушыў,
Як акрыяў крыху, Бурчук:

– Паклікалі, прызнаем шчыра,
Мы Караткевіча дарма.
Лепш патурбоцілі б Шэкспіра,
На горшы выпадак – Дзюма.

Было б паболей інтарэсу
У чытачоў, калі б Шэкспір
Надыктаваў якую п'есу.
Нашто тады "Война и мир"?

Наш Караткевіч – ён не глыба,
Заўжды здаваўся мне пустым…
А Трындунец маўчаў, як рыба,
Глядзеў пад ногі, а затым

На Бурчука зірнуў сярдзіта
І ўстаў рашуча з-за стала.
…Ад сеансёра ўся эліта
Як апляваная пайшла.

## Вешчы сон

Тры дні пасля таго канфуза
Быў Трындунец як сам не свой.
Баяўся старшыня саюза:
Крый Божа, штосьці з галавой…

Ён думаў кожную хвіліну,
Узгадваў пра "Войну и мир":
"Калі на стол шэдэўр не кіну –
Хоць ты кладзіся ў дамавіну,
Самохаць зарывайся ў жвір".

Паверыць быў гатовы ў Бога,
Калі збавенне Ён пашле.
І, безумоўна, Льва Талстога
Партрэт паставіў на стале.

Калі ў чарговы раз у ложа
Зняможана зваліўся ён,
Яму прысніўся – быць не можа! –
Дзівосны, незвычайны сон…

…Збылася Трындунцова мара –
Нарэшце трапіў на Парнас.
Уверсе – зоркі, знізу – хмара,
Ён – пасярэдзіне якраз.

На той гары людзей не многа
(Парнас не двор жа прахадны).
На кожным пасяленцы – тога*.
Хто чым займаюцца яны.

Убачыў Маркеса і Лорку
(Іх Трындунец пазнаў у твар).
Вядуць нязмушана гаворку
І п'юць амброзію-нектар.

Крыху далей, напэўна, Драйзер,
А побач з ім, бадай, Стэндаль.
Падобныя ва ўсякім разе.
Іх ён не ведае, на жаль.

А вунь Міцкевіч на сцяжынцы.
Чамусьці ён зусім адзін.
Хоць хтосьці лічыць за чужынца,
Для Трындунца ж ён свой, ліцвін.

Непадалёк – французаў хеўра:
Заля, Бальзак, Дзідро, Гюго…
Ад захаплення рот, як зеўра –
Адвісла сківіца ў яго.

Чакала й большае здзіўленне
(Хоць ты вачам сваім не вер!):
Паклаўшы рукі на калені,
Пад пальмаю сядзіць Гамер!

Ну проста падарожжа ў часе!
Крануўся з месца Трындунец –
Рашыў прайсціся па Парнасе,
Разведаць, дзе яго канец.

Ішоў і быў бязмежна рады –
Аж слёзы шчасныя ўваччу.
Аднак… калючыя пагляды
Ён раптам на сабе адчуў.

Хто ж пазірае гэтак колка?
Ён агледзеўся. Божа мой!
То ж беларуская суполка!
У бок ягоны йдуць гурмой!

Бураўкін, Колас, Танк, Купала…
А Караткевіч – на чале!
І Трындунцу аж млосна стала.
"Паб'юць! Прылюдна! Пры святле!"

Ужо кулак сціскае Быкаў,
Відаць, не мінаваць бяды…
І раптам хтось яго паклікаў:
– Гэй, Трындунец, хадзі сюды!

Трывогу не сагнаўшы з твару,
Зірнуў удалеч з-пад рукі.
Талстой з Тургеневым на пару
Гуляюць там у гарадкі

І, згледзеўшы яго асобу,
Завуць чамусьці да сябе.

– Пабіць хацелі? А хваробу! –
Ён крыкнуў "свойскае" гурбе

І да Тургенева, Талстога,
Нібы апараны, пабег,
Хаця і замінала тога,
А ззаду нёсся гучны смех…

Сказаў з усмешкаю на твары,
Руку працягваючы, Леў:
– Даўно цябе пабачыць марыў,
Пагаварыць з табой хацеў.

Пісьменнік ты такі цікавы!
Дадаткам – шчыры беларус…
– А як ідуць наогул справы?
Як твой пісьменніцкі саюз? –

Тургенеў падтрымаў гамонку.
І Трындунец панік ураз.
– Як быццам і няблага звонку,
Ды ёсць адна праблема ў нас.

Яна – нібы на шыі гіра…
"Вярхі" скубуць маіх пісак,
Бо твор накшталт "Войны и мира"
Не паддаецца ім ніяк. –

Зірнуў з надзеяй на Талстога. –
Добразычлівы ты, дальбог.

А часу вольнага замнога,
Дык нам бы, можа, і памог?..

– Калега! – выгукнуў Тургенеў. –
Скажу я шчыра, ад душы:
Ты сам, няма сумневу, геній!
Дык той шэдэўр і напішы!

Я не маню! Пацвердзі, Лёва:
Ён існы геній! Так ці не?
– Пацверджу. Пішаш адмыслова,
І нават лепей за мяне…

…Ах, як шкада! На словах гэтых
Дзівосны абарваўся сон.
Ноч. Цішыня. У спальню ветах
Зірнуць спрабуе, бы шпіён…

Як Трындунец расплюшчыў вочы,
Не сумняваўся ён ані,
Што вешчы гэты сон, прарочы,
І што Тургенеў не маніў.

Яму пад сілу тая ношка –
Напіша геніяльны твор!
Натхнёны, ён ускочыў з ложка.
Нарэшце выйдзе на прастор!

Нарэшце быкавым і чорным
Ён падатрэ, як кажуць, нос!
Не назаве тады "прыдворным"
Яго якісь малакасос!

Яшчэ ідэя не саспела,
І не акрэсліўся сюжэт,
А Трындунец падаўся смела
У свой рабочы кабінет.

Ён, на замок узяўшы дзверы,
Спярша хадзіў туды-сюды,

Прысеў, прысунуў стос паперы
І назву вывеў – "Правадыр".

Паверыў: стане явай мэта,
Бо акурат хвілінай той,
Здалося, падмаргнуў з партрэта
З усмешкай хітрай Леў Талстой…

*24–31 жніўня 2016 г.*

* Тога – парадная верхняя адзежа старажытнарымскай знаці.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Аляксандр БАГДАНОВІЧ:

# «Абсурд вісіць у паветры»

*Алімпійскі чэмпіён па веславанні на каноэ-двойцы шчыра распавёў “Народнай Волі” пра закулісныя гульні ў вялікім спорце.*



Як паведамлялася, напярэдадні Алімпіяды ў Бразіліі Міжнародная федэрацыя каноэ абвясціла пра дыскваліфікацыю мужчынскай зборнай Беларусі за парушэнне антыдопінгавых правіл. Маўляў, у федэрацыі ёсць доказы прыёму беларусамі забароненых прэпаратаў падчас збору ў Францыі. У выніку Гульні прайшлі без беларускіх весляроў, а доказы іх вінаватасці… не прадастаўлены да гэтага часу.

– Хто “заблакаваў” наш удзел у Алімпійскіх гульнях? Тут некалькі варыянтаў, – кажа **Аляксандр БАГДАНОВІЧ** (на фота – справа), які вырашыў ужо канчаткова развітацца з вялікім спортам. – Але асабіста мне падаецца, што ў гэтым пытанні пралабіравала свае медалёвыя інтарэсы Германія, чыя зборная па веславанні на байдарках і каноэ на Алімпіядзе ў адсутнасць асноўных канкурэнтаў заваявала сем узнагарод. З іх чатыры – залатыя. У каноэ-двойцы на 1000 метраў у іх наогул не было ліцэнзіі на гэтай дыстанцыі. Напярэдадні на спаборніцтвах немцы бачылі, у якой форме мы былі, а таму, магчыма, вырашылі не рызыкаваць і прыбраць з дарогі сапернікаў. У выніку прыбралі нас, расіян і атрымалі ліцэнзію. Што адбываецца далей? Дыскваліфікацыю атрымлівае “двойка” з Малдовы, якая выйгравала ў сезоне на Кубку свету. Сказалі: “У вас знайшлі допінг. Не ведаем, што за допінг, але будзем разбірацца”. Пасля паўфінальных заездаў на Алімпіядзе абвяшчаюць малдаванам: “Прабачце, інфармацыя пра допінг была памылковая, але ўдзельнічаць вы ўжо не можаце”.

**– А чаму вы думаеце, што тут маецца “нямецкі след”?**

– Я ж не сцвярджаю на сто працэнтаў, але самі факты, калі іх скласці ў адну карціну, указваюць на гэта. Тым больш немцы маюць вагу ў Міжнароднай федэрацыі каноэ.

**– А што зараз чуваць па “справе беларускіх весляроў”?**

– Я думаю, судовае разбіральніцтва абавязкова будзе, таму на нейкі вынік усё ж такі разлічваем. Няхай скажуць, якія законы мы парушалі. Якое парушылі антыдопінгавае правіла? І хто канкрэтна вінаваты, калі паловы дыскваліфікаваных хлопцаў нават не было ў Францыі? Амаль месяц прайшоў, як закончылася Алімпіяда, а ўсе маўчаць, і гэты абсурд вісіць у паветры.

**– Успамінаеце тую французскую гісторыю?**

– Гэта ж не так даўно было, як яе забыць? Праводзілі перадалімпійскі збор у Францыі, раней да нас ніякіх прэтэнзій не было. Французы ўзялі допінг-пробы ў нас і ў некаторых спартсменаў знайшлі рэшткі мельдонію, які з 1 студзеня гэтага года стаў забароненым прэпаратам. Тады нават не ведалі, якая дазіроўка дазволена, колькі прэпарат утрымліваецца ў арганізме. Але нейкі французскі вучоны, як нам стала вядома пазней, сказаў, што мельдоній выводзіцца з арганізма на працягу трох дзён. Логіка была простая: калі допінг-пробы беларускіх спартсменаў паказалі мельдоній, значыцца, яны прымалі яго ў Францыі і прывезлі ў краіну. А ў Францыі мельдоній прыроўнены да наркотыкаў. Таму быў вобшук, дапытвалі ўсіх, палохалі моладзь… Сур’ёзна так шукалі, бо заглядвалі нават ва ўнітаз. Адзінае, што некалькі капсул з мельдоніем знайшлі ў аднаго трэнера, але ён браў прэпарат для ўласнага карыстання.

**– Да якога часу сітуацыя з удзелам беларусаў у Алімпіядзе заставалася нявызначанай?**

– Мы трэніраваліся да самага апошняга моманту. І нават калі сказалі, што не паедзем на Гульні, усё роўна не кінулі трэніроўкі ў спадзяванні, што такога абсурду не дапусцяць. Памыляліся.

**– За сваю спартыўную кар’еру ўпершыню сутыкаецеся з такой сітуацыяй?**

– Да гэтага ніколі такога не бачыў. Мне падаецца, што мы патрапілі “пад малаткі” разам з дыскваліфікаванымі расіянамі, а мы ж суседзі. Думаю, у іншай сітуацыі Міжнародная федэрацыя каноэ не дазволіла б сабе такія дзеянні. Гэта ж трэба: прыдумаць нешта неверагодна абстрактнае, каб адлучыць ад Алімпійскіх гульняў усю каманду! Увогуле, за перадалімпійскі сезон спартыўныя чыноўнікі прыбралі чатыры мацнейшыя ў свеце зборныя – беларусаў, румын, малдаван і расіян. Што тады казаць пра канкурэнцыю ў гэтым відзе спорту?

**– Аляксандр, гэтая непрыемная гісторыя нейкім чынам паўплывала на тое, што вы вырашылі пакінуць спорт?**

– Не, я зараней ведаў, што гэта будзе мая апошняя Алімпіяда. Хацелася завяршыць спартыўную кар’еру прыгожа, з алімпійскімі медалямі. Але атрымалася тое, што атрымалася. І сёння, калі пабачыў, якія гульні ідуць у вялікім спорце, нават не за сябе перажываю. Калі мы не будзем адстойваць сваю рэпутацыю, то праз гады і з нашымі маладымі спартсменамі тое самае зробяць. Не пусцяць на спаборніцтвы толькі таму, што некаму іншаму спатрэбіцца медаль. Краіне, нашым спартыўным чыноўнікам трэба заваёўваць большы аўтарытэт у свеце. Каб з намі лічыліся.

**– 34 гады для веславання – гэта шмат?**

– Пенсіённы ўзрост. Гэта вельмі складаны від спорту, а арганізм не жалезны. Да таго ж я з той катэгорыі спартсменаў, якіх не задавальняе проста прысутнасць у спорце толькі для таго, каб ствараць масоўку. Не можаш ужо перамагаць – ідзі займацца іншай, больш карыснай справай.

**Алесь СІВЫ.**

САД, ОГОРОД



## Ликбез по удобрениям

Хорошо, когда огород и сад радуют шикарным урожаем. Но рано или поздно урожайность падает, а значит, надо потратиться на удобрения. Чтобы не тратить деньги зря, ознакомьтесь с нашей таблицей.

| Название удобрения | Доза | Под что вносить | Особенности |
|---|---|---|---|
| Аммиачная селитра | 15–25 г на 1 кв. метр | Ранней весной под все культуры, летом под капусту, огурцы и зелень. | Хорошо растворяется в воде, долго действует, эффект проявляется очень быстро. |
| Сульфат аммония | 75–95 г на 1 кв. метр | На всей площади сада и огорода поздно осенью под перекопку. | Удобрение очень хорошо поглощается почвой, почти не выветривается и не вымывается. |
| Мочевина | До 20 г на 1 кв. метр | Лучшее из азотных удобрений. Вносят и рано весной, и в первую половину лета под все культуры. | Смешивать мочевину и аммиачную селитру нельзя. |
| Кальциевая селитра | До 50 г на 1 кв. метр | Вносят летом под культуры, страдающие от верхушечной гнили, а также слабым раствором опрыскивают яблони и груши. | Лучше вносить в виде жидких подкормок. |
| Суперфосфат простой гранулированный | 30–40 г на 1 кв. метр | Обычно вносят под перекопку под все культуры. | Хранить его надо в сухом помещении. |
| Суперфосфат двойной | 10–15 г на 1 кв. метр | Хорош для подкормок растений во второй половине лета, можно вносить под перекопку или при посеве в бороздки. | Норма почти в три раза меньше, чем у простого суперфосфата за счет большего количества действующего вещества. |
| Хлористый калий | 10–20 г на 1 кв. метр | Используют в основном при внесении под осеннюю перекопку почвы. За зиму вредный хлор выветривается и остается только полезный калий. | Одно из самых дешевых удобрений. |
| Сернокислый калий | 20–30 г на 1 кв. метр | Использовать можно как осенью, так и весной. Самые выгодные весенние и летне-осенние подкормки растений (во время созревания плодов). | Считается одним из лучших бесхлорных удобрений. |

ГОНКА ЛЕГЕНД

# Свята з зоркамі біятлона, шашлыкамі і «Пагоняй»

*У мінулыя выхадныя ў Раўбічах прайшло спартыўнае мерапрыемства, якое шырока рэкламавалася напярэдадні.*



*“Дар’я Домрачава запрашае! Гонка легенд біятлона-2016”*, – на працягу апошніх месяцаў рэгулярна гучала з дынамікаў у метро.

І – дачакаліся! У мінулыя выхадныя ў Мінску ў другі раз прайшла “Гонка легенд біятлона”, у якой бралі ўдзел сусветныя зоркі біятлона, якія ўжо завяршылі сваю кар’еру. **Халвард Ханеволд, Фрудэ Андэрсен, Каці Вільхельм, Флоранс Баверэль, Ліў-Грэтэ Шельбрэйд, Вольга Зайцава, Алена Зубрылава…** Адносна не так даўно мы бачылі іх на трасах, для многіх гэта былі “недасягальныя” зоркі, а зараз да іх можна было проста падысці і ўзяць аўтограф.

Дарэчы, за дзень да гонкі былым спартсменам паказалі горад – яны наведалі Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Нацыянальную бібліятэку, Беларускі дзіцячы хоспіс. Пасадзілі дрэвы на адмысловай алеі і традыцыйна пакаштавалі беларускую нацыянальную кухню. І ўсе, як адзін, былі ў захапленні ад чысціні сталіцы.

А ў дзень гонкі для ўдзельнікаў яе вынікі, скажам шчыра, былі не такія ўжо і важныя. Для балельшчыкаў, якія прыехалі ў “Раўбічы”, расклад на п’едэстале таксама быў не на першым месцы.

Аўтограф-сесія спартсменаў, шашлыкі, культурная праграма… Дарэчы, на стадыёне былі заўважаны аматары біятлона, якія прыехалі на свята ў майках з “Пагоняй”. На шчасце, да разбіральніцтва з міліцыяй справа не дайшла, як гэта нярэдка здаралася на футболе. Ды і гасцей было багата, напэўна, нікому не хацелася псаваць свята.

Дарэчы, хтосьці, магчыма, хацеў убачыць у “Раўбічах” і трохразовую алімпійскую чэмпіёнку **Дар’ю Домрачаву**, але сама спартсменка, якая ў хуткім часе стане маці, вырашыла, што ў гэтай сітуацыі ёй больш камфортна будзе знаходзіцца дома. Хаця свайго мужа – “караля біятлона” Б’ёрндалена на мерапрыемства адправіла, каб той папрысутнічаў і ўручыў падарунак Лукашэнку.

*“Даша дома, але цікавіцца тым, што тут адбываецца*, – распавяла маці біятланісткі – Ларыса Аляксееўна. – *Упэўнена, яна задаволена такім святам…”*

**Кастусь МАРЧУК.**

## Паломніцкія падарожжы. Гарачыя туры

*Сам не маеш часу на адпачынак – зрабі падарунак бацькам і атрымаеш дадатковую зніжку 5%.*

Ізраіль – цудоўная краіна. Кожны, хто хоць раз пабываў на Святой Зямлі, марыць зноў вярнуцца туды. Менавіта гэтая зямля, па якой некалі хадзіў Ісус, цяпер духоўна ўзбагачае паломнікаў з усяго свету. У краіне, якая абмываецца водамі трох мораў і сталіцай якой з’яўляецца Іерусалім – горад, прызнаны святым трыма сусветнымі рэлігіямі, павінен пабываць кожны.

Выдатная магчымасць наведаць Святую Зямлю ёсць і ў вас – вось ужо некалькі гадоў Piligrymka.by прапануе разнастайныя паломніцкія туры ў Ізраіль. Сотні пілігрымаў з Беларусі пабывалі ў Іерусаліме за апошнія некалькі гадоў разам з намі. У пілігрымку можа ехаць кожны, незалежна ад узросту і канфесійнай прыналежнасці.

**Гэтай восенню лепшая прапанова ад Piligrymka.by – унікальная магчымасць сумясціць паломніцкую паездку і адпачынак на Міжземным моры ў Нетаніі!**

У Віфлееме (4 ночы) пражыванне ў атэлі **«Golden Park»** – гэта добры, прыгожы атэль (3*) з басейнам. Раніцай і ўвечары ёсць магчымасць паплаваць. У Нетаніі (4 ночы) – **«Galil»:** гэта цвёрдая “тройка” эканом-класа на беразе мора. Размешчаны каля прагулачнай зоны горада і цэнтральнай плошчы Нетаніі.

Запрашаем вас у паломніцкі тур у Ізраіль з 28 верасня па 6 кастрычніка 2016 года.

Кошт паездкі – 1555 рублёў.

Мы пабываем там, дзе правёў сваё зямное жыццё Збаўца, дзе ён нарадзіўся, прапаведаваў і быў укрыжаваны, а таксама ўбачым Кану Галілейскую, гару Фавор, Галілейскае мора (возера Кінэрэт), Мёртвае мора, Табху, Віфлеем, Іерусалім, Іардан, Назарэт, Іерыхон, Эйн-Карэм, Яфу… А таксама адпачнём на Міжземным моры ў Нетаніі…

**Гэтай восенню вы таксама маеце ўнікальную магчымасць наведаць месца аб’яўлення Маці Божай у Фаціме (Партугалія).**

З нагоды 100-гадовага юбілею аб’яўленняў, у Фаціме малітву ўзначаліць Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, а таксама будзе асвечана фігура Маці Божай Фацімскай, якая пасля прыедзе на Беларусь.

Мы прапануем вам адправіцца ў цікавейшае падарожжа разам з намі з 26 верасня па 11 кастрычніка 2016 года і наведаць Ліхень, Кёльн, Парыж, Люрд, Сант’яга дэ Кампастэла, Фаціму, Лісабон, Барселону, Падую і Чэнстахову!

Мы праедзем усю Еўропу! Акунёмся ў воды акіяна! З новымі светлымі думкамі вернемся дамоў.

Кошт паездкі – 1500 рублёў.

**Перадкалядная Герма-нія!**

Прапануем вам далучыцца да казачнага падарожжа ў Германію (12–22 снежня 2016 г.), падчас якога вы зможаце не толькі адпачыць, але і атрымаць унікальную магчымасць пазнаёміцца з разнастайнай еўрапейскай культурай, у прыватнасці, узяць удзел у славутых перадкалядных кірмашах, якія штогод адбываюцца перад святамі Божага Нараджэння !

Праграма пілігрымкі прадугледжвае чатырохразовае харчаванне і размяшчэнне ў адным гатэлі на ўвесь час пражывання. Вам гарантавана добрая кампанія, суправаджэнне групы высокаадукаваным гідам, а таксама насычаная экскурсійная праграма.

Вы пабачыце Хельмштадт, Магдэбург, Браўншвейг, Вольфсбург, Гослар, Берлін або Дрэздэн.

Кошт паездкі – 933 рублі.

Запрашаем у ваша найлепшае падарожжа з Piligrymka.by!

Каб узяць удзел у паломніцтве, патэлефануйце нам: **Velcom +375 29 66-35-110, МТС +375 33 35-35-110.**

З праграмамі пілігрымак вы можаце азнаёміцца на нашым сайце: www.piligrymka.by

**Даведка пра арганіза-тараў тура**

Рымска-каталіцкая парафія Св.І.Кунцэвіча ў г.п.Расоны з’яўляецца афіцыйным арганізатарам паломніцкіх аўтобусных тураў па святых месцах Еўропы і авіятураў у Грузію, на Мальту і ў Ізраіль на Святую Зямлю. Дзесяцігадовы досвед працы ў арганізацыі пілігрымак. Сваіх прадстаўнікоў мае ў Мінску, Віцебску, Полацку і іншых гарадах Беларусі.

Арганізатары пілігрымак не маюць камерцыйных мэт. Прыход Святога Іасафата Кунцэвіча Віцебскай Епархіі Рымска-каталіцкай царквы. УНП 300807447

ВЕДАЙ НАШЫХ!

# «Гэта была Паралімпіяда Ігара Бокія…»

*Беларускі паралімпіец пераўзышоў уласнае дасягненне па колькасці ўзнагарод Паралімпіяды-2012 у Лондане.*

XV летнія Паралімпійскія гульні, якія праходзілі 7–18 верасня ў Рыа-дэ-Жанейра, абвешчаны закрытымі.

Усяго ў скарбонцы беларускай зборнай 10 медалёў, у тым ліку 8 залатых і 2 бронзавыя ўзнагароды. Больш за ўсё ўзнагарод у плыўца Ігара Бокія, ён заваяваў 7 медалёў (6 залатых і 1 бронзавы). Акрамя таго, у яго два рэкорды свету і шэсць рэкордаў Паралімпійскіх гульняў! Чэмпіёнамі таксама сталі плывец Уладзімір Ізотаў і Андрэй Праневіч (фехтаванне на калясках). Бронза ў кіданні кап’я – у Аляксандра Трыпуця. Беларусь на 19-м месцы ў агульным заліку, калі лічыць па залатых медалях.

Такім чынам, Бокій пераўзышоў уласнае дасягненне па колькасці ўзнагарод Паралімпіяды-2012 у Лондане. Чатыры гады таму на яго рахунку было пяць залатых і адна сярэбраная ўзнагарода. Усяго ў беларуса цяпер 13 узнагарод Паралімпійскіх гульняў.

*“Гэта была Паралімпіяда Ігара Бокія”*, – пішуць у сацыяльных сетках балельшчыкі, віншуючы плыўца з чарговым поспехам.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



ФУТБОЛ

# Сталічнае «Дынама» і «Мінск» парадавалі галамі

*Адбыліся матчы 22-га тура чэмпіянату краіны па футболе ў вышэйшай лізе.*

Вось вынікі матчаў: “Слуцк” – “Нафтан” (Наваполацк) – 1:1, “Мінск” – “Славія” (Мазыр) – 6:2, “Белшына” (Бабруйск) – “Іслач” (Мінскі раён) – 0:0, “Дынама” (Мінск) – “Граніт” (Мікашэвічы) – 5:0, “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) – “Дынама” (Брэст) – 0:1, “Віцебск” – “Гарадзея” – 1:1, “Крумкачы” (Мінск) – “Шахцёр” (Салігорск) – 0:1.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 22 | 17 | 3 | 2 | 54–19 | 54 |
| Шахцёр | 22 | 11 | 6 | 5 | 32–16 | 39 |
| Дынама (Мн) | 21 | 9 | 8 | 4 | 32–22 | 35 |
| Мінск | 22 | 10 | 5 | 7 | 33–23 | 35 |
| Іслач | 22 | 9 | 6 | 7 | 27–28 | 33 |
| Гарадзея | 22 | 8 | 9 | 5 | 27–20 | 33 |
| Тарпеда-БелАЗ | 21 | 9 | 5 | 7 | 32–23 | 32 |
| Дынама (Бр) | 22 | 9 | 4 | 9 | 32–34 | 31 |
| Віцебск | 22 | 8 | 6 | 8 | 20–16 | 30 |
| Крумкачы | 22 | 8 | 5 | 9 | 21–26 | 29 |
| Славія | 22 | 7 | 6 | 9 | 25–33 | 27 |
| Нёман | 22 | 5 | 6 | 11 | 13–29 | 21 |
| Граніт | 22 | 4 | 9 | 9 | 16–38 | 21 |
| Слуцк | 22 | 4 | 9 | 9 | 17–29 | 21 |
| Белшына | 22 | 4 | 6 | 12 | 26–34 | 18 |
| Нафтан | 22 | 3 | 7 | 12 | 16–33 | 16 |



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 19.09.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26 265 экз. Заказ № 3544

